№ 49 (3790)
25 чэрвеня 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

***Якуб КОЛАС***

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**ДА ЎВАГІ ПАДПІСЧЫКАЎ!**

## Сёння — не позна. Паслязаўтра будзе позна

*Так, каб і ў ліпені атрымліваць “Народную Волю”, Вам нельга марудзіць. Аформіць падпіску лепш сёння. У крайнім выпадку — заўтра.*

*Няма магчымасці падпісацца на шэсць месяцаў, падпішыцеся на тры, на месяц. Пазней прадоўжыце тэрмін падпіскі.*

*Мы — за Беларусь!*

*А вы?*

*Таксама — за Беларусь!*

*Тады і ў другой палове 2013 года будзем разам.*

***Вы — з “Народнай Воляй”, “Народная Воля” — з Вамі!***

# Хто падлажыў свінню Беларусі?

*Трывожная інфармацыя: Расія забараніла экспарт свініны з Гродзенскай вобласці, Украіна ўвяла поўную забарону на экспарт прадукцыі беларускай свінагадоўлі. Прычына — выяўленне ў Іўеўскім раёне ачага захворвання на афрыканскую чуму свіней.*

*Афіцыйнае паведамленне на гэты конт з’явілася позна ўвечары ў мінулую пятніцу. “Дэпартамент ветэрынарнага і харчовага нагляду Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання інфармуе, што Беларускім дзяржаўным ветэрынарным цэнтрам у паталагічным матэрыяле, атрыманым ад трупа свінні, якая належыць жыхару вёскі Чапунь Іўеўскага раёна Гродзенскай вобласці, выяўлены генетычны матэрыял узбуджальніка афрыканскай чумы свіней (АЧС). Дзяржаўнай ветэрынарнай службай Рэспублікі Беларусь праводзіцца комплекс мерапрыемстваў па ліквідацыі ачага і недапушчэнні распаўсюджвання захворвання”.*

*Калі захворванне не ўдасца спыніць, то па беларускім экспарце прадуктаў харчавання можа быць нанесены моцны ўдар.*

(Працяг тэмы на 2-й стар.)



**ЗА РУЛЁМ**

## *Паліва падаражэе?*

*Міністэрства фінансаў Беларусі ініцыіруе павышэнне ставак акцызаў на аўтамабільнае паліва, паведаміў прадстаўнік нафтаперапрацоўчай галіны.*

Паводле яго слоў, гэтая прапанова матывавана неабходнасцю павялічыць даходы бюджэту. Мяркуецца, што стаўкі акцызаў на бензіны могуць узрасці на 20 працэнтаў, на дызельнае паліва — на трэць.

Акцыз займае значную долю ў цане паліва. “У цане тоны дызпаліва акцыз займае 14 працэнтаў, у цане тоны бензінаў у залежнасці ад маркі — ад 16 да 24 працэнтаў”, — зазначыў суразмоўца БелаПАН.

Нагадаем, што ў Беларусі дзейнічае дзяржаўнае рэгуляванне цэн на паліва. Галіновыя эксперты мяркуюць, што існуе рызыка таго, што ва ўмовах стрымлівання ўрадам інфляцыі павышэнне акцызаў ляжа на плечы вытворцаў.

Варта зазначыць, што паступленні ад акцызаў на паліва робяць значны ўклад у даходы беларускага бюджэту.

На пачатку 2013 года стаўкі акцызаў на нафтапрадукты ўзраслі на 20 працэнтаў. Цэны на аўтамабільнае паліва на беларускіх АЗС у гэтым годзе павялічваліся толькі аднойчы — у студзені, падаражанне склала (у залежнасці ад наймення нафтапрадуктаў) ад 4 да 6,7 працэнта.

**БЕЛАРУСЬ—ЕС**

# Макея пусцілі ў Еўропу

*З міністра замежных спраў Беларусі Уладзіміра Макея часова знялі забарону на ўезд на тэрыторыю ЕС. Такое рашэнне прынята ўчора на пасяджэнні Савета міністраў замежных спраў ЕС у Люксембургу.*

*“Савет спрашчае дыпламатычныя кантакты паміж ЕС і Беларуссю,* — гаворыцца ў паведамленні прэс-службы Савета ЕС. — *Каб аблегчыць кантакты, савет прыпыніў забарону на ўезд для беларускага міністра замежных спраў Уладзіміра Макея”.*

Не выключана, што 22 ліпеня Макей зможа ўдзельнічаць у пасяджэнні міністраў замежных спраў краін “Усходняга партнёрства”, якое адбудзецца ў Бруселі. А ў лістападзе ўзначаліць беларускую дэлегацыю на саміце “Усходняга партнёрства”, які пройдзе ў Вільнюсе. Апошнія месяцы Брусель і Мінск вядуць актыўныя кансультацыі аб прадстаўніцтве Беларусі на гэтым форуме.

Што тычыцца рашэння Савета міністраў замежных спраў ЕС, то ў афіцыйным паведамленні падкрэсліваецца, што яно не з’яўляецца зменай палітыкі ЕС у дачыненні да Беларусі. *“ЕС працягне сваю палітыку крытычнага ўзаемадзеяння з Беларуссю, у тым ліку і сваю палітыку санкцый, у мэтах садзейнічання паважанню правоў чалавека, вяршэнства закона і дэмакратычных прынцыпаў у Беларусі”,* — паведамляе прэс-служба Савета ЕС. Зазначаецца таксама, што савет вернецца да гэтага пытання пры штогадовым пераглядзе санкцый у дачыненні да Беларусі ў кастрычніку гэтага года і тады вырашыць, ці працягваць прыпыненне санкцый. Трэба адзначыць, што Макей застаецца ў спісе асоб, на якіх распаўсюджваюцца фінансавыя санкцыі (рахункі і ўласнасць гэтых асоб на тэрыторыі ЕС павінны быць замарожаны).



**АПАЗІЦЫЙНАЯ ПАЗІЦЫЯ**

### Маглі знайсці іншага «паштальёна”»

Рашэнне Савета міністраў замежных спраў ЕС выклікала неадназначную рэакцыю ў Беларусі. Кіраўнік АГП Анатоль Лябедзька так пракаментаваў навіну пра тое, што Макей выключаны з “чорнага спісу”: “Рашэнне прагназуемае. Не думаю, што яно выкліча вялікае задавальненне сярод грамадзянскай супольнасці і палітычнай апазіцыі, таму што бурыцца сам прынцып гэтага спісу, калі выключэнне з правілаў мацнейшае за правіла. У якасці „паштальёна” можна было б выкарыстаць прэм’ер-міністра Міхаіла Мясніковіча, віцэ-прэм’ера Уладзіміра Сямашку — людзей з эканамічнага блока. Таму, думаю, рашэнне ёсць, яно прынята. І той, хто яго прыняў, няхай нясе за гэта адказнасць”.

**АФІЦЫЙНАЯ ПАЗІЦЫЯ**

### «Гэта канструктыўнае рашэнне»

“З нашага пункту гледжання, гэта канструктыўнае рашэнне ў правільным кірунку, — заявіў Радыё Свабода прэс-сакратар МЗС Беларусі Андрэй Савіных. — Толькі праз кантакты і ўзаемапаважлівы дыялог магчыма ўрэгуляванне рознагалоссяў, якія цяпер існуюць”.

**ГУЧНАЯ СПРАВА**

## *Ці вярнулі Ларана Арыніча з Польшчы?*

Ужо даволі працяглы час былы гендырэктар “Пінскдрэва” Ларан Арыніч жыве ў Польшчы. Ён з’ехаў у суседнюю краіну пасля таго, як на прадпрыемстве, якое ён узначальваў, адбыўся выбух. Беларускі бок прасіў Польшчу экстрадзіраваць былога дырэктара — у Беларусі на яго заведзена крымінальная справа.

“Народная Воля” пацікавілася падрабязнасцямі справы.

Адвакат, які прадстаўляў інтарэсы Ларана Сцяпанавіча, паведаміў, што ягоны падабаронны ўжо даўно не звяртаўся да яго: значыць, усё спакойна.

У Следчым камітэце “Народнай Волі” адказалі, што польскі бок не адказвае на запыты беларускіх праваахоўнікаў наконт Арыніча. І ўвогуле, нават калі палякі і прынялі рашэнне не экстрадзіраваць экс-гендырэктара “Пінскдрэва”, то яны не абавязаны аб гэтым інфармаваць сваіх беларускіх калег.

Нагадаем, што Генпракурор Беларусі **Аляксандр Канюк** заявіў, што ў справе Арыніча няма ніякай палітыкі: “*Гэта звычайнае крымінальнае злачынства, і ўцёк ён за мяжу зусім не па палітычных прычынах, а каб пазбегнуць крымінальнай адказнасці”.*

Дарэчы, 15 ліпеня Ларану Арынічу споўніцца 77 гадоў.

**Марына КОКТЫШ.**

**РЭГІЁН**

## *Заробкі «выбіваюць» праз суд*

Працаўнікі Круглянскага льнозавода падалі іск у суд з патрабаваннем да адміністрацыі прадпрыемства выплаціць заробкі за красавік і май, а таксама грошы на адпускныя.

Жанчын, якія працуюць на прадпрыемстве, адправілі ў адпачынак і не пусцілі на працоўныя месцы 20 мая, пасля таго як яны калектыўна выступілі супраць закрыцця Круглянскага льнозавода. Але да гэтага часу заробак за красавік і адпрацаваныя дні мая ім не выплацілі. Не далі таксама так званыя адпускныя грошы, якія павінны былі аддаць перад сыходам у вымушаны адпачынак.

**ДАСЛОЎНА**

## *Мітрапаліт Філарэт за адмену смяротнага пакарання*

*“Мы, хрысціяне, не можам апраўдваць смяротнае пакаранне, бо гэта грэх забойства... Жыццё любога чалавека належыць яго Тварцу, Богу. Не мы, грэшныя людзі, падаравалі быццё чалавеку, не нам і пазбаўляць чалавека існавання. Бо за жыццё кожнага з нас Гасподзь Ісус Хрыстос аддаў сваё жыццё, зведаўшы пакуты, знявагі, здзекі і смерць на Крыжы... Дзяржава, караючы сваіх грамадзян смерцю, кожны раз нанова распінае Хрыста”,* — цытуе “Інтэрфакс”вітальнае слова Мітрапаліта Філарэта падчас “круглага стала” “Рэлігія і смяротнае пакаранне”.

**ЧУЛІ?**

## *Пенсіі павялічацца на 204 тысячы рублёў*

*Як вядома, Аляксандр Лукашэнка падпісаў спецыяльны ўказ, згодна з якім з 1 ліпеня будзе праведзена карэкціроўка фактычнага заробку пенсіянераў і пераразлік працоўных пенсій.*

У выніку пенсіі павысяцца ў сярэднім на 10,2%, сярэдняя пенсія па ўзросце складзе 2 мільёны 174 тысячы рублёў. Такім чынам, з ліпеня беларускія пенсіянеры будуць атрымліваць усяго толькі на 204 тысячы болей. Зараз сярэдні памер працоўнай пенсіі па ўзросце складае 1 мільён 970 тысяч рублёў.

Як вядома, пенсіі у Беларусі не павялічваліся больш за паўгода — апошнім разам пераразлік працоўных пенсій адбыўся ажно ў лістападзе мінулага года. За перыяд з лістапада па ліпень кошты амаль на ўсё павысіліся. Згодна з апошнімі данымі Нацстата, рост коштаў на тавары і прадукты харчавання за перыяд са снежня 2012-га па май 2013 года склаў 6,6%. Напрыклад, на 10% сталі даражэй яйкі, на 33% — гародніна, на 9% — садавіна, на 6% — лекі. Асабліва выраслі кошты на паслугі. Так, святло стала даражэйшым амаль на 34%, грамадскі транспарт — на 12%, паслугі сувязі — на 23%.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

**ПРЯМАЯ ЛИНИЯ**

# Чтобы гормоны были в гармонии



*В Беларуси растет число больных сахарным диабетом, не снижается уровень патологий щитовидной железы.*

*— Сахарный диабет — это приговор?*

*— Правда ли, что чрезмерное потребление сладостей может стать причиной заболевания сахарным диабетом?*

*— Какие ощущения могут свидетельствовать об эндокринных нарушениях?*

*— Что делать для профилактики заболеваний щитовидной железы?*

*— Как и где исследовать функцию щитовидной железы?*

*— Как правильно сбросить лишний вес?*

*На эти и другие вопросы ответит* ***кандидат медицинских наук, доцент, врач высшей категории медицинского центра “ЛОДЭ” Валентина Ивановна ШУТОВА****.*

*Звоните завтра, в среду,* ***26 июня с 15.00 до 16.30 по телефону 328-68-41.***

*Присылайте свои вопросы заранее по электронной почте* ***nvonlineinfo@gmail.com*** *с пометкой “Прямая линия”.*

**РЕФОРМЫ**

*Петр СТАРОБИНЕЦ*

# Чем опасна для белорусской модернизации Евразийская интеграция?

*Интегрируясь с Россией и Казахстаном, Минск существенно усложняет для себя решение проблемы модернизации экономики. Это государства с мощными сырьевыми экономиками. Технологии же и инновации, столь необходимые Беларуси, находятся не на Востоке, а на Западе.*

### С кем интегрируемся?

В 2000-х годах экономический рост в России основывался на сырьевом драйвере, а многие отрасли российской промышленности попросту деградировали. В российской промышленности каждый занятый производит за год добавленного продукта на 50 тыс. долларов. Причем эти данные учитывают весомый вклад нефтегазодобывающего комплекса. Тем не менее это втрое меньше, чем в США.

В рейтинге глобальной конкурентоспособности 2012—2013 гг. — обширном ежегодном исследовании, которое проводится Всемирным экономическим форумом совместно с сетью партнерских организаций, — Россия занимает лишь 67-е место. В первой же десятке рейтинга традиционно доминируют европейские страны: первое место, причем уже четвертый год подряд, занимает Швейцария, второе и третье места у Сингапура и Финляндии соответственно. Далее идут Швеция (4), Нидерланды (5), Германия (6).

За два десятилетия, с 1990-го по 2011 год, доля России на мировом рынке наукоемкой продукции снизилась с 7,5% до 0,3%. В мировом рейтинге инновационной активности, включающем в себя 142 страны, Россия в настоящее время занимает 66-е место.

По словам главы “РОСНАНО” Анатолия Чубайса, доля предприятий, осуществляющих технологические инновации, составляет лишь 10% от общего числа промышленных предприятий России, в то время как у стран-лидеров рейтинга (Германии, Дании, Эстонии, Швеции) доля инновационных предприятий выше 50%.

В том же рейтинге глобальной конкурентоспособности Казахстан занимает 51-е место. При этом ему удалось за год улучшить свою позицию сразу на 21 пункт. Производительность труда — а это один из важнейших показателей конкурентоспособности экономики — в Казахстане за четыре года выросла вдвое, но тем не менее составляет всего порядка 17 тыс. долларов на одного работника. По показателю глобального инновационного индекса Казахстан находится на 60-й позиции из 110 стран.

При таком раскладе очевидно: получить современные технологии и инновации у партнеров по ЕЭП Беларуси будет крайне сложно. Хотя бы потому, что там их практически нет.

### Пакет, предлагаемый Россией, более привлекателен

Перспективным источником инвестиций и передовых технологий может быть Европа. Однако Беларусь все больше и больше отдаляется от нее, отдавая приоритет восточным интеграционным проектам.

Беларусь всегда была зависима от России, считает аналитик Белорусского института стратегических исследований (BISS) Андрей Елисеев. По мнению эксперта, учитывая количество рычагов влияния, было бы сложно отыскать варианты, при которых наша страна смогла бы выбрать другой интеграционный проект.

— Тем более что за это Беларусь получает существенную экономическую и политическую поддержку, — отмечает Андрей Елисеев.

От интеграции в восточном направлении Беларусь получает, по разным оценкам, от 15% до 20% ВВП только в виде всякого рода субсидий и дотаций по энергоносителям, отмечает директор по исследованиям “Либерального клуба” Евгений Прейгерман. Плюс — политически закрепленные возможности выхода на российский рынок. Это существенные аргументы в пользу того, чтобы часа весов склонилась в пользу восточного интеграционного проекта.

Европа пытается предлагать Беларуси альтернативы, подчеркивает Андрей Елисеев. В частности, программу “Восточное партнерство”, которая предполагает в том числе техническую, экономическую модернизацию. Однако вместе с экономическим пакетом выставляется и набор политических требований, которые невыгодны белорусской власти. То же самое происходит с еще одной европейской инициативой — “Европейским диалогом о модернизации с Беларусью”.

— Пакет, предлагаемый Россией, более привлекателен, — считает эксперт. — Сегодня у ЕС нет политической воли предложить Беларуси привлекательные компенсационные варианты. А у белорусских властей нет большого желания двигаться навстречу Европе. При этом Андрей Елисеев не видит факторов, которые могут изменить сложившийся расклад в течение ближайших нескольких лет.

*(Окончание на 2-й стр.)*

Народная Воля
http://www.nv-online.info
25 ЧЭРВЕНЯ 2013 г.

АДРАС БЯДЫ

# «Шкада, але нічога не зробіш...»

Жыхары вёскі Чапунь не ўтойваюць, што з іх хатніх гаспадарак пазабіралі ўсіх свіней.

*— Калі яшчэ старшыня сельсавета прыязджаў перапісваць свіней, то сказаў, што ў Лежневічах (гэта суседняя з нашай вёска) у Лены Сушчынскай шэсць свіней здохла. Сказаў, што, можа, нейкая эпідэмія ці, магчыма, атруціліся. Карацей, і ён не ведаў, і ніхто не ведаў, што на самай справе за хвароба. Узялі пробы на экспертызу. Нам нічога не казалі, а потым раптам адбыўся налёт на вёску. Папрыязджала ўсё начальства. Можа, хто і хацеў свайго парсюка абараніць, не пусціць “ліквідатараў” у хлеў, дык на гэты выпадак у камандзе быў сам начальнік раённай міліцыі. І ў наш двор дактары з Іўя прыйшлі. Хаця я ўпэўнена, што мае свінні былі здаровыя. Яны добра пад’елі раніцай, вясёлыя былі... Але забралі — і ўсё. Пакідалі на трактар і павезлі паліць. А хлеў папырскалі нейкай дэзінфекцыяй. Цяпер людзі кажуць, што куры могуць лапы сабе папаліць ад гэтай хіміі. Чума там ці наогул нічога не было — не ведаем мы нічога. Кажуць, што камбікорм нейкі танны ўвозілі і ад яго хварэюць свінні. Але мы ніякага камбікорму і не куплялі. Кармілі зернем, буракамі, бульбай. Трое было свіней — па 180, 150 і 120 кілаграмаў напісалі. Хаця ніхто іх не ўзважваў. Паглядзяць: “Ну, колькі важыць? Пішы 180”.*

*Няма слоў, шкада! Карміць, гадаваць — і на табе! Дзякуй Богу, кароў не чапалі. Сказалі, што ім гэта не страшна. А калі б яшчэ кароў пазабіралі — то ўжо лепш і мяне б з імі разам,* — расказала жыхарка вёскі Чапунь, імя якой **Марыя** (прозвішча папрасіла не называць).

**Жыхар вёскі Канстанцін:**

*— У мяне было двое — кабанчык і свінка. Яны не хварэлі, елі добра. Да нас жа спачатку цэлы тыдзень ветэрынары ездзілі — назіралі, мералі тэмпературу, забіралі патроху свіней. Але здаровых спачатку не чапалі. А потым у адзін дзень прыехалі і да ўсіх пайшлі. І маіх свіней таксама забралі. Праўда, склалі акт. Сказалі, што па 16.000 рублёў дадуць за кілаграм. А калі і колькі будзе тая кампенсацыя насамрэч, пакуль ніхто не ведае. Ясна, што гэта малыя грошы. Але ў нас і спекулянты бралі свіней па такіх коштах. На базар жа не кожны сам паедзе. Цяпер тут у нас каранцін. Абкружылі нас, стаяць міліцыянеры з Гродна, правяраюць...*

**Жыхарка вёскі Ядвіга:**

— Так, наша вёска праславілася, але мы ж не вінаватыя. У нас свінні захварэлі ўжо даўно — з тры тыдні недзе. У адной жанчыны, у самай крайняй хаце, спачатку захварэла свіння: стала нейкая кволая, не ела. Думалі, што хутчэй за ўсё паразіты якія завяліся. Я хадзіла да яе і рабіла ўколы. Тыдзень тая свіння хварэла. А потым у другой суседкі, праз дарогу, такая ж бяда здарылася. Я таксама хадзіла. Давалі мы ім антыбіётыкі, бо тэмпература ў іх была занадта высокая. Вось я сама і занесла сваім свінням інфекцыю. У маіх, калі іх забіралі, тэмпература была 41,8. Ветэрынар, праўда, не мог сам адразу вызначыцца, што за хвароба. Потым толькі аналіз паказаў, што чума. Мой хлеў апрацоўвалі ажно тры разы. Свіней мы, канешне, выгадавалі вялікіх, клапаціліся пра іх. Канешне, шкада! Але нічога ж не зробіш.

**Любоў ЛУНЁВА.**



Калі ў Смаленскай вобласці нядаўна выявілі афрыканскую чуму свіней, мясцовыя ўлады адразу абвясцілі насельніцтва.

## «Ліквідатары» працуюць і пад Віцебскам

У трох вёсках Віцебскага раёна — Ліпаўцы, Шапечына і Асінаўцы — у насельніцтва таксама канфіскавалі і знішчылі свіней, якія ўтрымліваліся ў асабістых прысядзібных гаспадарках. Матывуецца гэта нейкай эпідэміяй, але якой канкрэтна, гаспадарам жывёл пакуль не паведамляюць.

У Шапечына, убачыўшы карэспандэнта, людзі хаваюць вочы і адмаўляюцца гаварыць. Атрымалася пагутарыць толькі з маладым хлопцам. Ён пацвердзіў, што ў вёсцы канфіскавалі ўсіх свіней, пагрузілі іх у прычэпы трактароў і павезлі ў невядомым кірунку. Людзям параілі асабліва не распаўсюджвацца аб тым, што адбылося, калі не хочуць непрыемнасцяў на працы.

У Асінаўцы людзі спяшаліся забіць свіней самі, пакуль іх не “пакасіла” невядомая хвароба. У тых, хто не паспеў апрацаваць тушы, “ліквідатары” іх проста забіралі.

Як распавяла адна з жыхарак Асінаўкі, за некалькі дзён да гэтага падворкі абыходзіў старшыня сельсавета, які запісваў, хто колькі свіней мае. Адбіраць жывёл прыехалі прадстаўнікі ветэрынарнай службы ў суправаджэнні міліцыі. Людзі сцвярджаюць, што забітых свіней ніхто не ўзважваў, нават мернай стужкі пры сабе ў ліквідацыйнай каманды не аказалася — вага жывёлы ў акт канфіскацыі запісвалася “на вока”.

Дарэчы, удалося пагаварыць з дэзінфектарамі, якія прыехалі апрацоўваць пабудовы, у якіх утрымліваліся свінні. Яны расказалі, што і самі не ведаюць, чым былі хворыя жывёлы, проста атрымалі ўказанне апрацаваць адрыны каўстычнай содай. Да гэтага, пры канфіскацыі, памяшканні апырскваліся хлоркай.

**Сяржук СЕРАБРО.**

*Віцебск.*

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Крыніца заражэння — камбікорм

**Вячаслаў ХАЦЯНОВІЧ, галоўны дзяржаўны ветэрынарны інспектар Іўеўскага раёна:**

— Ёсць рашэнне выканкама, вызначаны план мерапрыемстваў — усё, што патрабуецца, робім. У зону каранціну трапляюць вёскі Малая Чапунь, Чапунь, Лежневічы... Там за вёскай адразу рэчка цячэ, па ёй і мяжа. Першая зона — 20 кіламетраў, другая — 100 кіламетраў. Усё адбываецца ў адпаведнасці з ветэрынарна-санітарнымі правіламі. У вёсцы Чапунь жывуць працавітыя людзі. Туды з Мінска едуць на выхадныя. Мы, калі каранцін усталёўвалі, дык толькі за адзін вечар выхаднога дня зарэгістравалі 50 машын.

**— Ці сапраўды эпідэмія пачалася пасля таго, як пачалі карміць свіней няякасным камбікормам?**

— Як вырабляюць камбікорм? Туды мог трапіць нейкі кампанент, які не прайшоў тэмпературную апрацоўку. А межы сёння адкрытыя, камерсанты гэтым карыстаюцца і возяць прадукцыю туды-сюды. Вытворцы маглі набыць больш танную сыравіну, дадалі туды вотруб’е ці яшчэ нешта намяшалі, расфасавалі... Так, крыніца заражэння — камбікорм.

**Даратэя СОЛТАН.**

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

## Ірына ПРАКОПЧЫК: «Правы чалавека цесна ўплецены ў тканіну штодзённага жыцця»

*У Беларусі з’явіўся “Праваабарончы каляндар”. Чым адметнае гэтае выданне? Пра што яно? І на каго разлічана? Аб гэтым “Народнай Волі” распавяла адзін з аўтараў кнігі **Ірына ПРАКОПЧЫК.***



“Праваабарончы каляндар — гэта спроба сабраць даты, звязаныя са станаўленнем, развіццём і абаронай правоў чалавека, — напісана ва ўступным слове выдання. — Сюды ўвайшлі знакавыя даты. У тым ліку міжнародныя і сусветныя дні, афіцыйна абвешчаныя ААН, міжнародныя дні, якія прызнаюцца няўрадавымі арганізацыямі розных краін, а таксама даты беларускіх падзей, важных з пункту гледжання правоў чалавека, дні нараджэння і дні памяці выбітных актывістаў-праваабаронцаў”.

— Першапачаткова такі каляндар хацелі стварыць на сайце, але з’явілася магчымасць выдаць кнігу, — распавядае Ірына. — Такія даты ў грамадстве не вельмі ведаюць, а таму трэба было надаць календару годную форму. Да таго ж трэба было ўпісаць даты з беларускага праваабарончага руху ў сусветны кантэкст. Я працавала з тым матэрыялам, які датычыўся сусветнага ўзроўню, на беларускай тэматыцы спецыялізавалася яшчэ адзін аўтар кнігі — Паліна Сцепаненка.

**— Вам асабіста цікава было працаваць?**

— Па-першае, падчас працы над календаром я шмат аб чым даведалася. Гэта ўжо было цікава. Да таго ж за кожнай лічбай, датай стаяць чалавечыя гісторыі. Я адкрыла для сябе цікавасць да савецкага дысідэнцкага руху. Вось, напрыклад, беларускі дысідэнт Міхась Кукабака, які зараз жыве ў Маскве. Абсалютна незвычайны і ў пэўным сэнсе драматычны лёс чалавека, які ў савецкія часы не баяўся казаць праўду. Змагаўся за яе. Агулам Міхась Кукабака быў асуджаны паводле палітычных матываў чатыры разы і правёў у турмах, лагерах і вар’ятнях каля 17 (!) гадоў. 17 гадоў, можна сказаць, вырвалі з жыцця праваабаронцы, усё злачынства якога заключалася толькі ў тым, што ён казаў услых тое, аб чым думалі ўсе. Дарэчы, разам з Палінай Сцепаненка мы сустракаліся ў Маскве са спадаром Міхасём Кукабакам. Вельмі цікавы суразмоўца і чалавек. І, у рэшце рэшт, я зразумела, чаму так неабходна сёння занатоўваць праваабарончую дзейнасць, каб яна захоўвалася ў гісторыі. Праз нейкі час нашчадкі скажуць толькі дзякуй. Наша задача, каб людзі зразумелі: правы чалавека — гэта не нейкія абстрактныя паняцці, правы цесна ўплецены ў тканіну штодзённага жыцця чалавека.

**— Што яшчэ цікавага можна знайсці ў праваабарончым календары?**

— Тое, што мы не вельмі добра ведаем. Гэта, скажам так, маленькая праваабарончая энцыклапедыя. Напрыклад, чаму Міжнародны дзень роднай мовы адзначаецца 21 лютага? Таму што менавіта ў гэты дзень у 1952 годзе ў горадзе Дака (сталіцы цяперашняга Бангладэша) падчас разгону студэнцкай дэманстрацыі ад куляў паліцэйскіх загінулі пяцёра студэнтаў, якія вырашылі выйсці на вуліцу з патрабаваннем надаць іх роднай мове статус дзяржаўнай. У календары таксама можна прачытаць пра беларускіх вязняў ГУЛАГу, гвалтоўную расправу над дэпутатамі апазіцыі ў Вярхоўным Савеце Беларусі 12-га склікання, падзеі падчас прэзідэнцкіх выбараў 2006 і 2010 гадоў, пра пахаванне ў 1983 годзе пад наглядам спецслужбаў беларускай паэткі і палітвязня Ларысы Геніюш. *“Дарэмна ў Зэльву панаехала “службоўцаў у цывільным” з Ваўкавыска і Гродна, якія мусілі кантраляваць сітуацыю*, — распавядаў даследчык творчасці Ларысы Геніюш Міхась Скобла. — *Наўрад ці нехта з іх здабыў чарговую зорку на пагоны за тое сапраўды народнае пахаванне. “Дома свечкі даўно пагашаны, і магілкі пад снегам спяць. Дык няўжо і мяне, няшчасную, пад канвоем будуць хаваць?” — пыталася паэтка ў адным з сваіх апошніх вершаў. Спасцярога паэткі не спраўдзілася. Хавалі яе пад аховай любові ў атмасферы шчырага чалавечага смутку”.*

Як бачым, з календара можна пачарпнуць шмат цікавай інфармацыі...

**— На каго разлічана выданне?**

— На журналістаў, калег з праваабарончых арганізацый, моладзь, якая вучыцца. Думаю, даведнік будзе карысны. Дарэчы, ужо пайшлі першыя водгукі, некаторыя просяць дадаць новыя гістарычныя даты, імёны. Так што ў будучым мы плануем перавыдаць кнігу ў дапоўненым варыянце.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

РЭГІЁНЫ

## У Чартавічах на Валожыншчыне забілі ўсіх свіней

Віктар Садоўскі паказвае хлеў, дзе зрабілі дэзінфекцыю. Свіней ён зарэзаў яшчэ да таго, як прыехалі санітарныя і ветэрынарныя службы раёна.

Калі мы прыехалі ў Чартавічы, мясцовыя падумалі, што зараз будуць выплачваць кампенсацыю за свіней, якіх забралі. Напярэдадні ў Чартавічах ездзілі па дварах работнікі санітарных і ветэрынарных службаў. Яны прапаноўвалі здаваць свіней.

— Сказалі, што як не аддадзім, то пасля ўсё адно закапаем, а так атрымаем пасля грошы, — тлумачыць жыхарка Чартавічаў Марыя Бацян, якая аддала шэсць парасят і свінаматку. — Было шкада, але што рабіць?






Акт
об изъятии животных и продуктов животного происхождения
при ликвидации очагов заразных болезней списка МЭБ

17 июня 2013 г. (дата) — д. Чертовичи Воложинского р-на (место составления)

Мы, нижеподписавшиеся:
Начальник управления сельского хозяйства и продовольствия Воложинского РИКа Жолнерович П.В.
(должность, фамилия, имя, отчество)
Главный государственный ветеринарный инспектор Воложинского района Шупенько С.С.
(должность, фамилия, имя, отчество)
Начальник Воложинской районной [illegible] Пашковский А.К.
(должность, фамилия, имя, отчество)
в соответствии с Решением от , №
руководителя исполнительного органа государственной власти
Воложинского районного исполнительного комитета
Республики Беларусь
о проведении изъятия животных составили настоящий акт о том, что произвели изъятие животных при ликвидации очагов особо опасных болезней у [illegible]
проживающего в д. Чертовичи д. 52
согласно описи. Опись изъятых животных и продуктов животного происхождения:

| Количество животных (голов) | Вес животного (кг.) |
|---|---|
| 1 | 50 |
| 1 | 50 |

Грошы абяцалі выплаціць да канца тыдня — па 23 тысячы рублёў за 1 кілаграм вагі. На падворках, з якіх забралі свіней, зрабілі дэзінфекцыю хлявоў і папярэдзілі, каб цягам хаця б года не бралі свіней.

— Работнікаў свінакомплексу ў Пяршаях пад распіску папрасілі знішчыць свіней, якіх гадуюць самі, пад пагрозай звальнення. Для таго каб магчымае захворванне не перакінулася на гадаванцаў свінакомплексу, — расказала жанчына ў суседняй Сакаўшчыне, але папрасіла сябе не называць. У гэтай вёсцы ўжо прайшоў сход жыхароў, на якім ветэрынары з райцэнтра адказвалі на пытанні людзей. Тым не менш жыхары так і не ведаюць, што выклікала такія меры і ці ёсць у свіней нейкая хвароба.

**Зоя ХРУЦКАЯ,**
**Аляксандр МАНЦЭВІЧ,**
*“Рэгіянальная газета”.*

### КАЛІ ВЯРСТАЎСЯ НУМАР

У панядзелак у рэдакцыю пачалі тэлефанаваць жыхары вёсак Навагрудскага раёна. Адна жанчына з вёскі Пабрэззе, што на тэрыторыі Нягневіцкага сельсавета, крычала ў трубку: “*Што нам рабіць?! У нашу вёску прыехалі людзі ў масках. Так машыны паставілі, што мы і нумароў не бачым. Ідуць у кожны двор і забіраюць свіней. На прычэп трактара іх закідваюць. Што адбываецца?! Нам нічога не кажуць, ніхто не прадстаўляецца. Вайна ці што?!*”

Хутчэй за ўсё і гэтай вёсцы не пашанцавала...

РЕЗОНАНС

## «Доигрались!»

Так прокомментировал новость о том, что африканская чума свиней (АЧС) зарегистрирована в Ивьевском районе Гродненской области, руководитель Национальной мясной ассоциации России **Сергей Юшин.**

*“Они эту чуму от нас скрывали. Доигрались!”* — заявил Сергей Юшин “Российской газете”.

Как выяснилось, на прошлой неделе представители России были в Беларуси и пытались получить хоть какую-то информацию о том, что у нас происходит, поскольку новости о том, что в Беларуси у людей изымают и убивают свиней, дошли до России. Однако, как рассказал Сергей Юшин, представители наших аграрных властей вспышку АЧС отрицали.

По его словам, пытаться скрыть вспышку АЧС — самое страшное, что можно было сделать в такой ситуации.

Пока в Россию запрещены поставки мяса только из Гродненской области, где выявлена вспышка африканской чумы свиней, но не исключено, что под эмбарго может попасть вся белорусская продукция, пишет газета правительства России. РФ направляет в Беларусь своих специалистов.

### КСТАТИ

Россия — основной рынок сбыта белорусской свинины. В прошлом году поставки превысили 60 тысяч тонн, и еще около 100 тысяч тонн готовых изделий из свинины легло на прилавки российских магазинов.

Помимо России белорусская свинина поставляется в Украину и Казахстан, однако гораздо меньшими объемами.

## За свіннямі пра людзей забыліся

Яшчэ раз упэўніліся: чыноўнікі не думаюць выконваць свае абавязкі — быць адкрытымі і аператыўна адказваць на пытанні, якія хвалююць людзей.

На працягу ўсяго ўчарашняга дня “Народная Воля” так і не атрымала адказу на пытанні, якія сёння абмяркоўвае грамадскасць. Мы хацелі даведацца, якія раёны ўжо трапілі ў каранцінную зону, як знішчаюць хворых свіней.

На сайтах Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, яго дэпартамента ветэрынарнага і харчовага кантролю не з’явілася нават карты каранціннай зоны. Няўжо ніводнаму чыноўніку не прыйшло ў галаву, што людзям патрэбна дакладная інфармацыя? Атрымліваецца, што за свіннямі чыноўнікі не бачаць людзей.

РЕФОРМЫ

# Чем опасна для белорусской модернизации Евразийская интеграция?

*(Окончание
Начало на 1-й стр.)*

### Фактор политической воли

Можно ли всерьез говорить о “евразийской угрозе” модернизации экономики Беларуси?

Сам факт нахождения в Таможенном союзе, ЕврАзЭС и прочих интеграционных образованиях — не помеха для реализации программ по модернизации, внедрению инновационных разработок. Тот же Казахстан — лидер по отходу от сырьевой экономики среди тройки членов ТС, подчеркивает эксперт Либерального клуба Никита Беляев.

Интеграция не мешает этой стране привлекать западные технологии, перенимать и использовать опыт, обучать своих менеджеров в Европе.

— Так что дело не столько в интеграции, сколько в отношении к процессу развития экономики, — отмечает Никита Беляев. — Ситуация, сложившаяся в белорусской экономике, вообще не позволяет сегодня говорить о возможности привлечения западных технологий: Беларусь не открыта для этих технологий и не заинтересована в их использовании. Судя по действиям белорусских властей, они как раз таки заинтересованы в сохранении статус-кво — получении прибыли за счет переработки российской нефти.

Однако, по мнению эксперта, такой подход не может быть вечным и страну надо переводить на высокотехнологичные рельсы. Да только реализовывать такие проекты можно, лишь осуществив реальные рыночные реформы.

— Европейские инвесторы боятся идти в Беларусь, боятся национализации и непредсказуемости наших властей, — отмечает Никита Беляев.

Сегодня западные технологии, инвестиции не пойдут в Беларусь, поскольку для этого нет соответствующих условий, в том числе и в сфере законодательства.

— Геополитическое положение Беларуси, которая находится между богатой технологиями Европой и богатой сырьевыми ресурсами Россией, действительно предоставляет нашей стране большие возможности, — считает Евгений Прейгерман. — Однако чтобы изменить вектор развития страны, нужна политическая воля. А пока белорусскую сторону все более-менее устраивает. Власть начинает задумываться о каких-либо решительных действиях только тогда, когда проблемы становятся совсем уж явными.

Опять политика. Получается замкнутый круг?

### Торг уместен?

Разорвать замкнутый круг непросто, уверен Евгений Прейгерман. Интересными и полезными могли бы быть любые экономические инициативы Евросоюза, предполагающие вовлечение в них Беларуси.

— Однако Евросоюз сегодня строит отношения с Беларусью по той же модели, по которой они строились со странами, стремящимися к интеграции с ЕС в конце 1990-х годов. А эта модель уже не работает, — убежден эксперт. — В частности, проблема “Европейского диалога о модернизации” в том, что с белорусской стороны у программы нет партнера, обладающего существенным организационным, интеллектуальным ресурсом. Вот почему у этой программы нет ни достаточной поддержки в обществе, ни потенциала для внедрения каких-либо инициатив.

В любом случае со стороны ЕС охват должен быть гораздо шире. Работать нужно не только с гражданским обществом, как это происходит сегодня, но и с номенклатурой, уверены эксперты. Они предлагают изобретать и внедрять новые модели сотрудничества.

В рамках европейских проектов, в частности “Восточного партнерства”, есть несколько инфраструктурных проектов, реализация которых была бы крайне важна для белорусской экономики, считает Никита Беляев. Но, к сожалению, сегодняшние отношения между Беларусью и ЕС не позволяют сдвинуть их с мертвой точки.

В сущности, ситуация остается неизменной уже много лет: Беларусь выбирает, чей пряник — восточный или западный — окажется больше и слаще. Правда, в этой, казалось бы, беспроигрышной модели есть слабые места.

Например, выставленный Россией счет за поддержку может в итоге не компенсировать белорусские потери. Или цены на нефть и нефтепродукты пойдут вниз — о регулярно повторяющемся крахе “сырьевых империй” писал еще Егор Гайдар, и ничего невероятного в этом сценарии нет.

Вопрос и в том, готова ли Европа увеличить размеры пряника для Беларуси. Российская модель экономической интеграции, неизбежно рано или поздно приводящая и к интеграции политической, доказала свою эффективность. С другой стороны, Беларусь давно научилась балансировать между двумя пряниками и даже откусывать от каждого кусок повкуснее.

В любом случае сложившаяся ситуация действительно требует новых подходов. Однако не нужно забывать и о том, что белорусская экономика крайне нуждается в модернизации — не показушной, а настоящей. И каждый потерянный год приводит лишь к тому, что конкуренты уходят все дальше вперед. Да только без рыночных реформ модернизация невозможна. Значит, все же первична политическая воля. И ее нужно вырабатывать, поскольку можно помочь Беларуси решить актуальные задачи. А вот решить их за Беларусь не смогут ни Европа, ни партнеры по ЕЭП.

АФІЦЫЙНА

## Сярэдні заробак беларусаў 570 долараў

Нацыянальны статыстычны камітэт Рэспублікі Беларусі паведаміў, што налічаная сярэдняя заработная плата работнікаў Рэспублікі Беларусь (“бруднымі”) у маі 2013 г. склала 4.988.338 рублёў, рабочых і служачых — 5 млн 8 тыс. 838 рублёў. Атрымліваецца, што план пра 500-доларавую зарплату перавыкананы: 4 млн 988 тыс. рублёў — гэта 570 долараў у эквіваленце.

